# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Small talk




Калі ў мяне нехта пытаецца, чаму я не застаўся ў Амэрыцы, я найчасьцей адказваю – з-за “small talk”. What’s up? How are you doing? Not bad. Goooood...

Ня тое каб беларусы ня ведалі што такое перакінуцца парачкай словаў. А чый ты будзеш? Чэсеў унук? Надта ж мамку сочыш. І г.д. і т.п. Праблема ўзьнікае тады, калі small talk замяняе ўсе іншыя размовы, тады калі ты ня можаш ужо спытацца – якія ў цябе погляды на гэта, ці што ты думаеш пра тое, або – ты ведаеш, я ня згодны з большасьцю, я лічу, што... Цябе пераб’юць і раскажуць пра апошні прагноз надвор’я, а наступным разам проста ня сядуць з табою есьці ў сталоўцы, бо ты ненадзейны суразмоўца, бо выводзіш людзей з зоны звычаёвага камфорту, з зоны малых папіз...лак.

Пра што ў такім выпадку размаўляюць амэрыканцы ў нефармальнай атмасфэры, у публічнай прасторы, калі сур’ёзныя размовы (не паўтараньне слоганаў) пра палітыку, рэлігію, гісторыю, навуку пад няпісанай забаронай. Як па мне, дык у асноўным пра тое, як і дзе смачна пад’есьці і як пахудзець. Бывае пра спорт. Бывае пра адпачынак і падарожжы. Бывае пра жыцьцёвыя клопаты. Бывае нават і пра палітыку, рэлігію, гісторыю, навуку, але асьцярожна, з унутраным цэнзарам, без маркераў уласных поглядаў “я думаю”, “на мой погляд”, “мне здаецца”, “я перакананы”.

Ёсьць канешне свае плюсы і ў small talk. Граеш раніцай у тэніс, у сьвятле пражэктараў, на двары яшчэ цёмна. Тут невядома адкуль у твой бок шлэпае нейкі дзіўны незнаёмец. Ты яму з адлегласьці 10 мэтраў – how are you? І тут у яго два выйсьці, ці выцягнуць нож і пабегчы ў твой бок, ці ветліва адкінуць – I’m good і пайсьці далей па сваіх справах. Такая своеасаблівая праверка на вар’яцтва і намеры. Але што рабіць у іншы час, калі надта хочацца big talk?

Вяртацца дадому.

***Віталь ВОРАНАЎ***

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

| | |
|---|---|
| В. Генэралаў | 60 |
| Д. Генэралава | 60 |
| А. Занковіч | 60 |
| А. Круковіч | 60 |

**Усім шчыры дзякуй!**

Шаноўныя сябры Згуртаваньня “Пагоня”, калі ласка, сваечасова аплочвайце гадавыя сяброўскія складкі.

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” *Viktar Yedzinovich.***

*Паважаныя **А. Волкава і А. Сьвістун** калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”** адбудзецца ў суботу **13-га кастрычніка 2018 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак Дома Маракоў знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.
Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

**Кастрычніцкі сход плянуецца прысьвяціць сэмінару экспэртаў па вучобе і працы ў ЗША.**

--------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы сайт **pahonia.com***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

| | |
|---|---|
| В. Генэралаў | 30 |
| А. Занковіч | 30 |
| А. Круковіч | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі ($30) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

*Рэдакцыя бясплатна надрукуе прыватныя абвесткі і будзе ўдзячная за дасланыя для друку артыкулы, водгукі й лісты.*

***Шаноўныя сябры!** Калі ласка, сваечасова абнаўляйце падпіску на “Весткі й Паведамленьні”. **(стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча)**.*



**Весткі й Паведамленьні**
*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*
**Viestki j Paviedamleńni**
Сусьветнае сеціва: *e-krama.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*
**№ 10 (632)**
**Кастрычнік 2018 г.**

# МЭНТАЛЬНЫ ВІРУС

Летась сьвет адзначыў 100-годзьдзе расейскай рэвалюцыі, прыход да ўлады найбольш брутальнай і сьмертаноснай ідэалёгіі найноўшага часу. Гэтая гадавіна, калі й закранулася ў масавых сродках, не нагадвала рэфлексаваньне над катастрафічным ходам падзеяў, што прывялі да таталітарнага паняволеньня каля паловы чалавецтва. Не ўзгадваліся, у большасьці выпадкаў, і тыя дзясяткі мільёнаў жыцьцяў, што былі страчаныя дзеля фантому дасягненьня “свабоды й справядлівасьці” па-марксыстоўску. Затое на поўніцу нахвальваліся кідкія, прывабныя вонкавыя праявы расейскай рэвалюцыі – зьнікненьне арыстакратыі ды старых эксплюататарскіх клясаў, росквіт авангарднага мастацтва, эмансыпацыя жанчынаў, усеагульная пісьменнасьць, бясплатныя адукацыя і мэдыцынскае абслугоўваньне.




У друку, па тэлевізіі ды ў сеціве настальгічна згадваліся паэзія Ўладзімера Маякоўскага, кампазыцыі Казімера Малевіча, фатаздымкі Родчанкі, кінакарціны С. Эйзэнштэйна. Там не было згадак пра апавяданьні В. Шаламава, “Паэму без героя” Ахматавай, або лягерныя малюнкі Эўфрасіньні Керсноўскай. Дзіўным чынам эстэтыка камуністычнай летуценнасьці вось ужо 100 год не адпускае імагінацыю выкшталцоных адукаваных колаў вольнага сьвету – Амэрыкі і Эўропы. Як заўсёды, па-за кадрам засталіся жудасныя пакуты, сьлёзы і сьмерць мільёнаў тых, на чыім гарбу камуністычная манструозная цывілізацыя выбудоўвала свой ілжывы пацёмкінскі фасад.

Нядаўна ў Нью Ёрку нарабіла шуму перамога маладой недасьведчанай жанчыны А. Акасіё-Картэс у праймэрыз-выбарах кангрэсовых прэтэндэнтаў ад Дэмакратычнай партыі. Азнаёміўшыся з праграмаю гэтай прадстаўніцы партыі/руху Дэмакратычных Сацыялістаў Амэрыкі (ДСА), можна знайсьці шмат да болю знаёмых тэзісаў: скасаваць эксплюатацыю, увесьці роўнасьць, гарантаваць правы, забясьпечыць патрэбы. А таксама адмяніць памежны кантроль і ўвесьці бясплатную адукацыю і мэдыцыну.




Вось ужо сто з гакам год падобныя прыгожыя ідэі ачмураюць глузды ўразьлівай моладзі, якая пасьля вырастае і папаўняе шэрагі журналістаў, настаўнікаў, выкладчыкаў унівэрсытэтаў, кінэматаграфістаў, пісьменьнікаў – і таксама палітыкаў. Некрытычнае ўспрыняцьце марксавых ідэяў пра дадатную вартасьць, пра дасягненьне эканамічнай роўнасьці праз пераразьмеркаваньне й вонкавае рэгуляваньне эканомікі, застаецца “сымболем веры” сёнешніх левалібэральных, так званых “прагрэсыўных” колаў у Вольным сьвеце.







Але тая палітэканомія і дыямат савецкіх часоў, што абрыдлі як пераж оўваньне мокрага картону, сёньня ў Эўропе й Амэрыцы расквечаныя рознымі новымі крэатыўнымі ідэямі. “Заходняя цывілізацыя – кубло рэакцыі, няроўнасьці, прыгнёту”. “Гісторыя Амэрыкі – бясконцы ланцуг рабства і генацыду”. “Прыём на працу і вучобу згодна са здольнасьцямі й дасягненьнямі – расізм і сэксізм”. Да такога не дадумаліся былі ані Маркс, ані Ленін або Чэ Гевара. Маладыя людзі, што праходзяць апрацоўку сучаснай “прагрэсыўнай “ сыстэмы адукацыі, наратываў масавых “прагрэсыўных” мэдыяў, мастацтва – глядзяць на сьвет праз прызму колеру

***заканчэньне на бачыне 2***

# Верасьнёўскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 8 верасьня, у Сэнтрал-Парку прайшоў сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”, спалучаны зь беларускім пікнікам, ладжаным супольна з групай “Беларусы ў ЗША. Разам лягчэй”. На пачатку сходу, які адбыўся ў нефармальных абставінах на лужку ў парку, старшыня “Пагоні” сп. Віталь Зайка прывітаў прысутных і павіншаваў з Днём Беларускай Вайсковай Славы. Ён затым распавёў перадгісторыю гэтай памятнай даты і пра Бітву пад Воршай у 1514 годзе. Тады 30-тысячнае войска Вялікага Княства Літоўскага перамагло ў 2,5 разы больш лічэбнае войска Масковіі, якое ўварвалася на землі Вялікага Княства і захапіла Смаленск. Пад пагрозаю апынуліся іншыя гарады і ўмацаваньні. Пад Воршаю на рацэ Крапіўна захопнікаў сустрэла войска Вялікага Княства начале з ваяводам Канстанцінам Астрожскім. Вытрываўшы атакі маскоўцаў, коньнікі Вялікага Княства вывелі перасьледнікаў – маскоўскае войска – на засаду, умацаваную гарматамі й лёгкай агнястрэльнай зброяй. Залпы гарматаў і пішчаляў прычынілі маскоўскаму войску вялікія страты ў людзях і конях, пачалася паніка, і рэшткі маскоўскага войска кінуліся ўцякаць. Наўздагон за імі кінулася кавалерыя Вялікага Княства. У выніку нашыя продкі нанесьлі маскоўцам сакрушальную паразу, захапілі вялікі палон і значную колькасьць прыпасаў. Аршанская бітва была, верагодна, самай значнай перамогай войска Вялікага Княства над расейскім войскам. Яна таксама атрымала шырокі розгалас у тагачаснай Эўропе і знайшла трывалы адбітак у беларускай культуры. Напачатку 1990-х гадоў дату 8 верасьня сталі адзначаць як Дзень Беларускай Вайсковай Славы. 8 верасьня 1992 году ў Менску на Плошчы Незалежнасьці афіцэры-беларусы прынялі вайсковую прысягу на вернасьць Беларусі. У цырымоніі бралі ўдзел афіцэры ў адстаўцы, а таксама палітычныя дзеячы Беларускага Народнага Фронту. Разам з тым гэтую дату нельга лічыць нейкай русафобскай імпрэзай, як звычайна называюць яе расейскія шавіністы ды іхныя мясцовыя памагатыя. Гэта ёсьць патрыятычная традыцыя абароны сваёго народу, сваёй краіны, якая ня мае на ўвазе цэлы расейскі народ, але толькі ягоныя кіруючыя шавіністычныя, рэваншысцкія колы.

Затым сп. В. Зайка распавёў пра маючыя адбыцца сёлета бліжэйшыя наступныя імпрэзы Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоні” – кастрычніцкі сход, які будзе прысьвечаны пытаньням працы і адукацыі ў ЗША, і лістападаўскі сход, на якім плянуецца правесьці прэзэнтацыю літаратурнага альманаху “Беларус”.

Затым кіраўнічка групы “Беларусы ў ЗША. Разам лягчэй” Ганна Шарко распавяла пра беларускі пікнік і таксама пра мажлівасьць дапамагчы дзяўчынцы Веры Званко, якая мае сур'ёзную праблему са здароўем. Жадаючым было прапанавана даваць свае ахвяраваньні, за якія можна было выбраць памятны падарунак.

Падчас імпрэзы адбываліся гульні, сьпевы, сяброўскія сустрэчы і калегаваньне. Імпрэзе не перашкодзілі ні вецер, ні дождж. Па словах Ганны Шарко, “Гулялі, сьпявалі і шмат абдымаліся. У дадатак сабралі 442 даляры на лекі для маленькай Веры Званко. Зь 1-й гадзіны дня да 8-й вечара адпачывалі і не хацелася развітвацца. Усім шчыра дзякуем. Гэта было крута!!!”

У імпрэзе ўзялі ўдзел як зусім малыя беларусы-немаўляты з бацькамі, моладзь, так і спадарства Занковічаў, Анатоль і Тыльда, у адвансаваным веку, а таксама людзі сярэдняга ўзросту – і ўсім было добра і цікава. Імпрэза была вельмі цёплай і прыемнай.

***Віталь ЗАЙКА***





# У Чэхіі надрукаваньня паштоўкі, прысьвечаныя 100-годзьдзю БНР

Сёлета беларусы адзначаюць 100 гадоў з дня абвешчаньня незалежнасьці БНР, і ў сувязі з гэтай велічнай для беларусаў падзеяй украінская дыяспара ў Чэхіі, дзякуючы намаганьням Таварыства “Супраціў Заходняй Украіны” ў Празе (Чэская Рэспубліка) выпусціла паштоўку, прысьвечаную 100-годзьдзю БНР з мэтаю прапаганды і папулярызацыі беларускіх дысыдэнтаў, якія з 1995 году ў барацьбе за свабоду і дэмакратыю (якую 100 гадоў таму праклямавала БНР) з аўтарытарным рэжымам сучаснай Рэспублікі Беларусь перасьледуюцца ўладамі, і ў сувязі з гэтым большасць зь іх эмігравалі за мяжу.

Кіраўніцтва Таварыства “Супраціў Заходняй Украіны” ў Празе ўжо разаслала на памяць вышэйзгаданыя паштоўкі у розныя ўкраінскія і беларускія грамадзкія арганізацыі і музэі ў Чэхіі і Украіне, а таксама вышэйзгаданая паштоўка на памяць была накіраваная ў ЗША рэдактару літаратурнага альманаху беларускіх пісьменьнікаў замежжа “Беларус” Марату Клакоцкаму.

***Алег ПАЎЛІЎ****,*
*адмыслова для “Вестак і Паведамленьняў”*
*Прага*






# Мэнтальны вірус

***заканчэньне з бачыны 1***

скуры, гендэру, сэксуальных схільнасьцяў ды падобных рысаў. Такі падрыў гуманістычных вартасьцяў, расклад грамадзтва пад маркай “сацыяльнай справядлівасьці”, распальваньне нецярпімасьці ды пашырэньне падзелаў ў грамадстве, ягоная атамізацыя ўважаюцца за апошняе слова ў паляпшэньні грамадзтва, вяршыню разьвіцьця чалавечай думкі.

Калі прыглядзецца, карані цяперашняй зьявы ўсё ж прасочваюцца да ідэяў “роўнасьці й справядлівасьці”, да ўтапічнага сацыялізму і марксістоўскіх тэзісаў. Шмат разоў абвергнутыя і адрынутыя рэчаіснасьцю, прыўкраснадушныя ідэі роўнасьці дасюль не даюць спакою адукаваным клясам, што, адарваўшыся ад прыемных вэб-дызайнаў ды новых смачных экзатычных страваў, ламаюць галаву над тым, як жа палепшыць долю працоўных масаў. Амаль як іхныя папярэднікі, інтэлігенцыя ў Расейскай імпэрыі 100+ гадоў таму. Гэта крывянячае ўсьведамленьне патрэбы роўнасьці – нібы нейкі мэнтальны вірус, нейкае забурэньне ў глуздах, што перадаецца з пакаленьня ў пакаленьне, нягледзячы на тое, што гэная “прыўкраснадушнасьць” адных каштуе шматлікім іншым людзям жыцьцяў. Назіраючы гэтую непакоючую паралель з 1917 годам, так і хочацца сказаць: “Спадарства дацэнты з кандыдатамі, журналісты і скрыпт-райтары: не адсланяйцеся ад Інстаграму, піце сабе далей кавулатэ, ня лезьце з паляпшэньнямі ў чужое жыцьцё”. Але не, вірус віруе, непакоіць, падымае на актыўныя дзеяньні. Зьяўляюцца новыя ягоныя мутацыі ў выглядзе Black Lives Matter, #MeToo, Boycott-Divestment-Sanctions.

Гэтая фантомная прага роўнасьці за любы кошт нагадвае прагу вынайсьці вечны рухавік, *пэрпэтуум мобілє*. Колькі ўжо разоў казалі сьвету, што гэта немагчыма, што супярэчыць законам фізыкі, што ўсе праекты вечнага рухавіка – невуцтва і фальсыфікацыя. Але не, дасюль зьяўляюцца новыя і нібы такія сабе пераканальныя праекты тога самага вечнага рухавіка. Адзінае, але істотнае адрозьненьне, наўрад ці ад вынаходніцкай дзейнасьці аматараў *пэрпэтуум мобілє* за ўсю гісторыю загінула больш за тузін людзей, у адрозьненьні ад дзясяткаў мільёнаў ахвяраў камунізму.

Прага ж роўнасьці й “сацыяльнай справядлівасьці” паклікае да жыцьця ўсё новых і новых дзеячаў, што гатовыя перараьмяркоўваць, рэгуляваць, абкладаць падаткамі, адным словам – “прыносіць шчасьце”. Вось і ў Нью-Ёрку былая акторка Сынтыя Ніксан набірае пункты ў палітычнай барацьбе, і паўкампэтэнтныя, але затое з “правільным” колем скуры мясцовыя палітыканы, гэтак як на фэдэральным узроўні падняліся палітыканы-сацыялісты кшталту Бэрні Сандарса або Элізабэт Ўоран. Нажаль, грамадзтва так і не вывучыла, не прааналізавала ўсю шкоднасьць і небясьпечнасьць гэнага мэнтальнага вірусу, не вынайшла лек супраць яго. А на сёньня адзіны здаровы спосаб змагацьня супраць таго вірусу – лёгіка і здаровы сэнс. Бо ўсё, што зьвязанае з так званай роўнасьцю і “сацыяльнай справядлівасьцю” – гэта нагрувашчаньне абсурднасьцяў і, часьцяком, проста вар'яцтва, што не праходзіць элемэнтарнага жыцьцёвага тэсту на слушнасьць і прыдатнасьць.

Каб прадухіліць заўтра нагрувашчаньне трупаў – трэба сёньня прадухіляць цяперашняе нагрувашчаньне абсурду, спыніць дзеяньне мэнтальнага вірусу.

***Віталь ЗАЙКА***